Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года
ІВАЦЭВІЧЫ–БАРАНАВІЧЫ–БЯРОЗА

# Газета для вас

26 ліпеня 1997 года
СУБОТА
№ 35
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы – 750 руб.
Цана ў розніцу – 1000 руб.

## ЧАС МЯСЦОВЫ

### Каледж змяніў статус

**БАРАНАВІЧЫ.** Першая вышэйшая навучальная ўстанова з'явілася ў горадзе. У разрад ВНУ пераведзен педагагічны каледж, статус якога змяніў Брэсцкі аблвыканкам на падставе рашэння калегіі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Раней тут рыхтавалі настаўнікаў пачатковых класаў і выхавальнікаў дашкольных установаў. Цяпер дабавілася яшчэ адна спецыяльнасць – выкладчык англійскай і нямецкай моў.

### Судзяць У. Кудзінава

У раённым судзе г. Барысава пачаўся судовы працэс над былым дэпутатам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га скліканне У. А. Кудзінавым. Ён абвінавачваецца па арт. 15 ч. 2 і арт. 170 ч. 2 (спроба дачы хабару і дача хабару).

Як вядома, У. А. Кудзінаў быў арыштаваны 4 лютага г. г., калі яшчэ меў дэпутацкія паўнамоцтвы, у тым ліку дэпутацкую недатыкальнасць. Між тым, пратакол затрымання дэпутата быў складзены толькі праз 27 гадзінаў пасля фактычнага затрымання. Як паведаміў нашаму карэспандэнту адвакат У. А. Кудзінава, ужо гэты факт, як і іншыя, аб якіх пакуль немэтазгодна гаварыць, прымушае падазраваць, што арышт У. А. Кудзінава мае палітычную падаплёку.

Суд над У. А. Кудзінавым ідзе. „Газета для вас" будзе інфармаваць сваіх чытачоў аб гэтым працэсе. Сачыце, за газетай.



*Беларусачка.* *Фота А. ГАНЧУКА.*

### Батальён просіць работы

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Столькі салдат беларускай арміі прыехалі на дапамогу Целяханскаму лягасу. Яны распачалі работу ў лесе, дзе прайшоўся нядаўні ўраган. Ім пастаўлена задача: нарыхтаваць на адведзеным участку 45 тысяч кубаметраў драўніны.

Салдаты размясціліся ў палатачным гарадку, які разбіты за вёскай Выганашчы.

### Кароткі курс гісторыі

**БЯРОЗА.** „Бярозаўшчына – наша бацькаўшчына" – так называецца брашура, выпушчаная абласной друкарняй па заказу мясцовага аддзела культуры. Атрымаўся своеасаблівы кароткі курс гісторыі асобна ўзятага раёна, дзе можна знайсці багаты фактычны матэрыял пра помнікі гісторыі, архітэктуры і археалогіі, музеі і важнейшыя прыродныя аб'екты, пра людзей, імёнамі якіх ганарыцца Бярозаўшчына.

Выданне добра ілюстравана. Тыраж – 20 тысяч экз.

### Сустрэнемся сёння?

Паважаныя чытачы і падпісчыкі „Газеты для вас"! Рэдакцыя нашага незалежнага выдання мае намер сустрэцца з вамі і пагутарыць натэмы, якія хвалююць і нас, і вас, адказаць на вашыя пытанні.

Сустрэча будзе праходзіць у неафіцыйнай абстаноўцы. Падчас яе для вас будзе спяваць малады, але ўжо знакаміты бард і музыкант Зміцер Бартосік.

Сустрэча адбудзецца сёння, 26 ліпеня, у 19 гадзін у Івацэвіцкім ГДК. Уваход – свабодны. Прыходзьце, калі ласка!

### Жыццё выратаваць не ўдалося

**БАРАНАВІЧЫ.** Нягледзячы на намаганні ўрачоў, памёр радавы Сяргей Свянцецкі, які атрымаў цяжкія раненні падчас нападу асуджаных на канвой на станцыі Баранавічы-Палескія (пра гэты выпадак наша газета паведамляла ў 33-м нумары 19 ліпеня).

– Гэта быў той клінічны выпадак, калі медыцына бяссільная, – сказаў галоўны ўрач гарадской бальніцы Генадзь Лабковіч. – Стан астатніх ваеннаслужачых, якія пацярпелі ў час схваткі, здавальняючы.

Сяргею Свянцецкаму было толькі 19. Ён пахаваны ў в. Крывошын Ляхавіцкага раёна, дзе нарадзіўся і вырас. Тут жывуць яго бацькі Рычард Уладзіміравіч і Ала Іванаўна, старэйшы брат Эдуард.

У гарадскі стацыянар разам з пацярпелымі салдатамі былі змешчаны на лячэнне і чацвёра ўдзельнікаў дзёрзкага ўцёку. Двое з іх памерлі; адзін, які атрымаў лёгкае раненне, пераведзены ў ахоўваемы лазарэт. Стан яшчэ аднаго асуджанага застаецца цяжкім, і ён знаходзіцца ў траўматалагічным аддзяленні.

Следства вядзе Баранавіцкая гарнізонная ваенная пракуратура. Як сказаў яе супрацоўнік Алег Анісімаў, аб якіх-небудзь падрабязнасцях гаварыць у працэсуальных інтарэсах пакуль рана. Трэба яшчэ дапытаць многіх людзей, правесці шэраг следчых дзеянняў.

Сяргей Свянцецкі (пасмяротна) і яго таварышы, якія рызыкавалі жыццём, адбіваючы бандыцкі напад, прадстаўлены да ўрадавых узнагарод.

### Па-балгарску

Балгарскі літаратурна-мастацкі часопіс „Панарама" свой чарговы нумар прысвяціў сучаснай беларускай літаратуры. Прадстаўлены ўсе жанры.

На балгарскай мове загучалі творы нашых землякоў: апавесць „Імгненне светлае" Міколы Купрэева (Івацэвіччына) і вершы Васіля Сахарчука, якія родам з Бярозаўшчыны.

● *НАВІНЫ РЭСПУБЛІКІ*

## АД СУБОТЫ ДА СУБОТЫ

### НАЦЫЯНАЛЬНЫ БАНК НЕ СУПРАЦЬ

Згодна з распараджэннем Нацыянальнага банка, у Беларусі будуць уведзены некаторыя змяненні ў парадак перамяшчэння праз мяжу рэспублікі замежнай валюты фізічнымі асобамі.

Так, істотна зменшыцца максімальная сума беларускіх рублёў, дазволеная для вывазу за мяжу, з 500 да 100 мінімальных заработных плат. Акрамя таго, з 1 жніўня будзе дазволена перасылка з Беларусі і ў Беларусь замежнай валюты ў суме, якая не перавышае ў эквіваленце 200 долараў ЗША.

Што да ўвозу ў рэспубліку замежнай валюты, то ён будзе ажыццяўляцца бесперашкодна, з выкананнем існуючага мытнага заканадаўства.

### ПРАВА НА АДУКАЦЫЮ – БЯСПЛАТНАЕ! ШКОЛЫ І ЛІЦЭІ – ДЗЕЦЯМ!

Сойм БНФ „Адраджэньне" прыняў два звароты да бацькоў школьнікаў, грамадскасці, у якіх выказваецца абурэнне дзеяннямі ўрада Рэспублікі Беларусь з прычыны пастановы аб спаганянні з бацькоў платы за карыстанне школьнымі падручнікамі, а таксама перадачы ў апаратыўнае кіраванне Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Дома настаўнікаў, Дома літаратара, Рэспубліканскай станцыі юных тэхнікаў, Дома тэхнічнай творчасці моладзі, Беларускага гуманітарнага ліцэя і іншых будынкаў адукацыйнага, выхаваўчага і культурнага прызначэння.

Сойм звяртае ўвагу бацькоў, грамадскасці, што ў нашай дзяржаве знаходзяцца і выкарыстоўваюцца грошы на шумныя і пампезныя святкаванні, „славянскія базары", „патрыятычныя саюзы моладзі", але няма грошай на ажыццяўленне канстытуцыйнага права на бясплатную адукацыю.

Сойм сцвярджае, што ў рэспубліцы адбываецца беспрэцэдэнтная акцыя вынішчэння адукацыйных, выхаваўчых, культурных установаў і наносіцца спланаваны ўдар па такіх важных для беларускай культуры, для духоўнага дабрабыту і перспектывы беларускай нацыі асяродках, як Беларускі гуманітарны ліцэй – кузня нацыянальна свядомых кадраў, і Дом літаратара з Саюзам пісьменнікаў, дзе, нягледзячы на ўціск, працягваецца беларускае культурнае жыццё.

Сойм БНФ заклікае беларускае настаўніцтва, бацькоўскі актыў, прафсаюзных педагогаў, творчую інтэлігенцыю краіны сказаць нарэшце цвёрдае слова прэтэсту, а бацькоў – не плаціць грошы за падручнікі.

### ДА ПРЭЗІДЭНЦКІХ ДЗЯЦЕЙ ВА ЎНІВЕРСІТЭЦЕ ХУТКА ПРЫВЫКНУЦЬ

У хуткім часе рады студэнтаў самага мяцежнага з ВНУ – БДУ папоўняцца адным студэнтам, які ўступіць хутчэй не ў „Малады фронт", а ў БПСМ. Уступныя экзамены на факультэт міжнародных адносін трымае малодшы сын прэзідэнта Дзіма Лукашэнка.

Старэйшы сын Віця даўно ўжо ўпрыгожвае сабой прастору гэтага факультэта. Глядзіш, у хуткім часе паслом стане. Дзе-небудзь у цудоўнай краіне, дзе няма ніякага БПСМ. А студэнт Дзіма будзе ездзіць да брата ў госці. У тым жа, што Дзіма паспяхова здасць экзамены і стане студэнтам, няма ніякага сумнення – пытанне паступлення нашых абітурыентаў, у тым ліку і прэзідэнцкага сына-абітурыента, курыруе сам таварыш Замяталін, які, як вядома, прызначаны нядаўна на пост намесніка прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь. Ён жа ўзначальвае прэзідэнцкую камісію па правядзенню ўступных экзаменаў.

### ГРАБЕЖНІКІ НАПАЛІ НА ЧЭМПІЁНА

Учынены напад на вядомага беларускага біятланіста, чэмпіёна свету, заслужанага майстра спорту Вадзіма Сашурына. Прыкладна а палове адзінаццатай вечара ў яго кватэры пачуўся званок. Гаспадар адчыніў дзверы і тут жа атрымаў удар па галаве. Напаўшыя – трое ў масках і з пісталетам – звязалі спартсмена, забралі з кватэры ўсё каштоўнае. Яго траўма, на шчасце, аказалася несур'ёзнай. Па гэтаму выпадку ўзбуджана крымінальная справа.

(Па старонках незалежных газет).

### Турысты паспаборнічалі ля возера

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Маляўнічае возера вёскі Гошча стала месцам правядзення раённага злёту турыстаў. 24 камандам трэба было і палаткі паставіць, і кастрышчы падрыхтаваць адпаведна з патрабаваннямі, і дроў назапасіць, і шмат іншага зрабіць, каб можна было жыць і спаборнічаць на працягу трох дзён. Юныя турысты мераліся сіламі і спрытам у пераадольванні паласы перашкод, хаджэнні па азімуту, іншых відах пешаходнага турызму.

Не толькі спартыўныя здольнасці трэба было праявіць. Наладжваліся разнастайныя конкурсы: турысцкіх навыкаў, на лепшую насценгазету, мастацкай самадзейнасці, фатаграфіі і плакатаў на ахове прыроды і іншыя. А як змяркалася, праводзіліся дыскатэкі.

Па выніках усіх відаў праграмы пяць прызавых месцаў занялі каманды Касаўскай, Амяльнянскай, Яглевіцкай, СШ № 3 г. Івацэвічы і Любішчыцкай школ.

# Сямейнае кола

● ДЗЕЦІ І МЫ

## Разам весела ісці

*Даволі весела і цікава бавяць час дзеці, што адпачываюць у Быценскім летнім аздараўленчым лагеры „Дубровачка". Узяць бы хоць другую змену, якая толькі-толькі завяршылася. Кожны дзень для амаль трох соцень школьнікаў розных узростаў быў насычаны самымі разнастайнымі, захапляючымі мерапрыемствамі. Атрады ў лагеры не шматлікія: па 24 чалавекі, што спрыяе таму, каб кожны з рабят быў заняты нечым цікавым і карысным. Ледзьве не кожны дзень у „Дубровачцы" ладзіліся свята альбо нейкае адметнае мерапрыемства. То Дзень індзейца, калі выхаванцы і выхавацелі выглядалі сапраўды як „апошнія з магікан". То свята Нептуна, калі струменні вады льюцца амаль адусюль. Усе мокрыя і вясёлыя. Быў конкурс на званне „Міс „Дубровачка", і конкурс юных пажарных, і шахматна-шашачны турнір – усяго не пералічыць. А яшчэ безліч розных рухомых гульняў, паходаў, а ўвечары – дыскатэка.*

*Часта хадзілі рабяты ў суседні лес па грыбы і ягады, іх тут ой як шмат. Напрыканцы змены ездзілі на экскурсію ў Жыровіцкі манастыр.*

*Усе забаўляльныя і працоўныя заняткі праходзяць пад кіраўніцтвам выхавальнікаў – студэнтаў Брэсцкага ўніверсітэта, Баранавіцкага і Пінскага каледжаў. Маладых, энергічных. Іх выдумкам і фантазіі, здаецца, няма мяжы. Узначальвае педагагічны калектыў „Дубровачкі" арганізатар пазакласнай работы Быценскай СШ Зоя Уладзіміраўна Дзянісік. Яна гаворыць:*

*– Настаўнікі ведаюць, што рабяты з лагераў вяртаюцца іншымі. Яны тут збліжаюцца больш, чым за месяцы і гады вучобы. Аб'ядноўваюць іх агульныя справы, перажыванні, уражанні, а потым – агульныя ўспаміны. Таму мы, педагогі, стараемся насычаць кожны дзень добрымі і карыснымі справамі.*

**В. МОЛАШ,**
**ст. супрацоўнік ЦНППБ АВПС-6**
**Івацэвіцкага раёна.**

● ИЗ ЗАЛА СУДА

## Когда сражаются она и он, не поможет и ООН

ВОЙНА – это всегда страшно, даже когда ее ведут между собой только два человека. История совместной жизни, а потом развода Марии Ивановны Ц. и Аркадия Ивановича Ж. из города Коссово печальное тому подтверждение.

Всё начиналось в начале 50-годов в послевоенном Коссово. Здесь свела их судьба, здесь они поженились, построили дом, здесь родились их дочери и сын. Казалось бы, всё, что нужно для счастья, спокойной семейной жизни, у них было. Она работала учительницей, он – киномехаником, в доме хоть и не с избытком, но водились деньги.

Но... Кто знает, в какую минуту между двумя близкими людьми, уже связанными накрепко детьми, пробегает черная кошка? Может она пробежала тогда, когда Аркадий Иванович впервые явился домой выпившим, а на замечание жены дал такой ответ, что он перерос в скандал? Или может она тенью скользнула между ними в ту минуту, когда Аркадий Иванович заметил прохладное отношение жены к своей матери? Кто знает... Хватало в их доме и обид, и упреков, и обоюдных обвинений, в справедливости которых у каждого не было сомнений. И в какой-то момент они – Мария Ивановна и Аркадий Иванович – одновременно поняли, что жизнь у них не удалась, что дети их несчастны от постоянных скандалов, которые в Коссово уже стали притчей во языцех. Тут надо заметить, что широкой огласке их семейного несчастья содействовала сама Мария Ивановна: она писала о нем во все инстанции, какие могла вспомнить. Это были и местные органы милиции, власти, и газеты различного уровня, и общественные организации. Но кто сможет соединить, заставить любить и терпеть один одного двух людей, уже неспособных на это? Мария Ивановна, наверное, не понимала этого или не хотела понять.

И всё же они прожили более 20 лет вместе. Развелись в начале семидесятых, когда сын, младший, ходил в шестой класс. Разделили имущество. Березовский районный суд, где слушалось дело о разводе, разделил и построенный ими дом наполовину. Согласно решению суда Аркадий Иванович должен был сделать вход в свою половину дома. Он его не сделал и около месяца ходил, т. е. попросту лазил через окно. Потом Мария Ивановна, по ее словах, сжалилась и разрешила бывшему мужу ходить в свою половину дома через коридор, уже принадлежащий ей.

Так стали жить они в этом разделенном доме – чужие, разведенные, но не простившие одно другому ни обид, ни слёз, ни несчастья детей, ни... многого, о чем известно только им. И опять пошли скандалы, в которых, по мнению Марии Ивановны, верх брал Аркадий Иванович. А посему она продолжала писать во все инстанции, взывала к сочувствию людей, слезно описывала свое бесправное положение. Куда только не посылала эти письма! Одно даже полетело в представительство ООН в Беларуси. Там посчитали целесообразным переслать письмо Марии Ивановны в местные органы власти, пояснили, что урегулирование конфликта между бывшими мужем и женой не входит в их компетенцию.

Года два назад в разделенном доме случился очередной скандал. Кто прав, кто виноват, сейчас трудно разобраться. Мария Ивановна утверждает, что Аркадий Иванович „выправил ее из дома газом", а сам стал проживать и на ее половине. Мария Ивановна уехала жить к дочери в Пружаны. Тогда же полетело письмо в „Народную газету", где бывшая жена называла бывшего мужа алкоголиком и зэком. Аркадий Иванович, прочитав публикацию, подал иск о защите чести и достоинства в суд, где ответчиком назвал бывшую жену и редакцию „Народной газеты". Иск рассматривался в Ивацевичском районном суде, затем в областном. В результате редакцию газеты обязали выплатить Аркадию Ивановичу за нанесенный моральный урон несколько миллионов рублей, Марию Ивановну – 500 тысяч рублей.

А недавно Аркадий Иванович и Мария Ивановна вновь встретились – в Ивацевичском районном суде, где рассматривался иск Марии Ивановны к Аркадию Ивановичу о выселении его из ее половины дома, а также об устранении препятствий пользования своей половиной дома для Марии Ивановны.

Дело рассматривалось в открытом судебном заседании в присутствии заседателей, прокурора. С горьким чувством сожаления и сочувствия смотрели судьи на двух почти семидесятилетних людей, жизнь посвятивших борьбе друг с другом. На склоне лет и пороге бессильной старости они вспоминали о том, кто кому изменял, обманул, обидел, ударил... А может они любили друг друга, если до этой поры не утратили для них значения все маленькие и большие происшествия семейной жизни? Любили, но не смогли сберечь эту любовь, расстратили её кто на что – выпивки и развлечения, скандалы и не менее скандальные письма во всевозможные инстанции?

...Как часто и многие из нас думают, что счастье человека зависит от страны, в которой он живёт, ее политического и экономического устройства. Но вот присмотришься к жизни конкретных людей и видишь, что мысль она, наверное, не всегда верная. Посели Марию Ивановну и Аркадия Ивановича в процветающей Швеции, Америке или другой богатой цивилизованной стране и, скорее всего, получишь те же результаты. Человек – кузнец своего счастья. Банальная, кажется, фраза, но точная. К сожалению, этой фразой в советские времена ограничивались и в школах, и в институтах, когда речь шла об этике семейных отношений. Только в один момент наше общество поняло, что эта этика – целый мир чувств и отношений. И чтобы строить этот мир, человеку нужно не только долготерпение, взаимное уважение, любовь, но и элементарные знания.

К сожалению, для Марии Ивановны и Аркадия Ивановича эти рассуждения уже не имеют никакого значения. Жизнь прожита, и если подводить ее итоги, то можно только утирать горькие слезы. Но может эти слезы будут предостережением тем, кто только начинает свою совместную жизнь?

Что касается иска Марии Ивановны, то суд удовлетворил его отчасти. Принято решение об устранении со стороны Аркадия Ивановича препятствий для ее пользования своей половиной дома, сарая и земельного участка. Истице и ответчику подсказывали такой выход: Марии Ивановне продать, а Аркадию Ивановичу купить ее половину дома. Но, как это показалось на суде, она дорого ценит свою половину дома, а он не испытывает желания покупать за такую цену. Разве найдешь сейчас взаимопонимание и желание пойти навстречу друг другу, если этого не было на протяжении всей жизни?

**Л. ЦЕЛУЙКО.**

● ИНТЕРЕСНО ЗНАТЬ

## Поспи – глядишь, поумнеешь

*Челоеек конца XX века, пытаясь успеть сделать все, не успевает главного – выспаться. А это, как следует из исследования, проведенного профессором канадского университета Британской Колумбии Стенли Ковином, самая большая потеря.*

*Оказывается, когда вы не высыпаетесь неделями, весь ваш недосып никуда не девается. Он накапливается и рано или поздно приведет вас к нервному истощению. Кроме того, когда вы не высыпаетесь – вы просто тупеете. Профессор Ковин проводил тесты на интеллектуальный уровень, так называемый „айкью". Приглашались люди, которые на предыдущих тестах имели равные показатели. В ходе эксперимента каждый из них недосыпал определенное количество часов в течение недели (нормальный сон должен длиться 9–10 часов). Если принять их обычный коэффициент умственного развития за 100%, то каждый час недосыпа стоил им 1%. Самыми тупыми оказались те, кто недосыпал по 3 часа. За неделю они отупели на 15%.*

*– Другими словами, – считает Ковин, – с 6 часами сна в день вы настолько отупеете, что не сможете эффективно заниматься ничем, кроме, пожалуй, политики. Причем во всем, что касается сна, выносливых людей не бывает. До изобретения лампочки люди спали положенные им 10 часов и были куда умнее, чем мы.*

● УЛЫБНИТЕСЬ

## И это все о нас

*Число свекровей и тещ в нашем мире почти одинаковое, почему же анекдоты ходят в основном про тещ? Потому что мужчины к житейским проблемам подходят с большим чувством юмора.*

XXX

*Муж приходит домой расстроенный и сообщает жене:*

*– У нас будет ребенок.*

*– И ничего нельзя сделать?*

*– Нет, твоя мать отказалась, и на этой неделе он будет у нас.*

XXX

*– Чтобы побудить свою дочку заниматься музыкой, я подарил ей скрипку. Но, увы, это ни к чему не привело.*

*– То же самое было и у меня, когда я подарил своей тёще чемодан.*



● СТОП-КАДР

◆

*Засплявае душа –*
*добрых спеваў чарга.*
*Зазвініць у вушах –*
*І туга не туга.*

*Гора хай не пячэ.*
*Гэй, гуляй, грамада!*
*Будзе шчасце яшчэ –*
*І бяда не бяда.*

*Як вясёлы той спеў –*
*дык чакай: будзе плён.*
*І ўсе беды твае,*
*глядзі, пойдуць на скон.*

Фота А. ГАНЧУКА.

● АХ, ЛЕТА...

# РАТАВАННЕ ТАПЕЛЬЦАЎ – СПРАВА РУК САМІХ ТАПЕЛЬЦАЎ

ІДЗЕ лета – час масавага адпачынку нашых грамадзян. Многіх вабяць рачныя і азёрныя гладзі. Аматарам купання і лодачных прагулак ёсць дзе развярнуцца: рэчка Грыўда і рака Шчара, азёры ў Бабровічах, Выганашчах, Вульцы Целяханскай, Корачыне, Гічыцах, два вадаёмы ля Івацэвіч, вадаёмы ў Косаве і ля Квасевіч...

Як жа арганізаваны адпачынак людзей ля вады і на вадзе? Ці ёсць нейкая служба, што адказвае за бяспеку адпачываючых?

У мінулыя гады ў раёне дзейнічала таварыства па вcase ратаванню на водах. Кіраваў ім штатны работнік, які рэгулярна атрымліваў зарплату. Сёлета такога штатнага работніка няма. Гэтае таварыства на грамадскіх пачатках даручана ўзначальваць старшыні камітэта па фізкультуры, спорту і турызму райвыканкама М. С. Шведу. Трэба зазначыць, што ў яго і сваёй работы хоць адбаўляй, а тут яшчэ грамадская.

Па словах М. С. Шведа, штосьці рабілася і робіцца таварыствам па выратаванню на водах. Па пытаннях бяспекі на вадзе праведзены семінар з фізрукамі школ раёна. Раздадзены па школах плакаты. У час навучальнага года з пяцікласнікамі школ райцэнтра ў басейне лазнева-пральнага камбіната вяліся заняткі па навучанню плаванню.

На летні перыяд толькі ў Косаве і Целяханах мясцовымі ўладамі вызначаны месцы для купання. Вядома, што больш за ўсё адпачываючых ля вады ў спякотныя дні, і асабліва на вадаёме ля Яглевіч. У выходныя тут дзяжураць актывісты спорту (Ягнешык, Бахур, трэцяга мой суразмоўца не ўспомніў). Дарэчы, ім, як заўважыў М. С. Швед, аплочваюцца гэтыя дзяжурствы.

За прайшоўшы летні перыяд гэтыя актывісты, як мне сказалі, ужо выратавалі шэсць чалавек.

На летні перыяд складзен таксама графік дзяжурства фізрукоў школ райцэнтра на мясцовых вадаёмах у выходныя і святочныя дні. Праўда, яго мне не паказалі.

А гэтым часам, насуперак усялякаму здароваму сэнсу, вада забірае новыя ахвяры. Колькі было тапельцаў летась і пазалетась, даведацца не ўдалося. А вось сёлета іх ужо чатыры.

„А хто будзе наступны?" – гэтак і хочацца запытацца. Гэта жаданне ўзнікла пасля таго, як у адзін з ліпеньскіх дзён я пабываў каля вадаёмаў за Івацэвічамі і ля вёскі Яглевічы. Там было даволі шматлюдна, пераважна маладыя людзі. Адны загаралі, купаліся, другія сядзелі за чаркай, трэція, гарланячы, рэзаліся ў карты...

Не выключана, што хтосьці з тых, хто на добрым падпітку (а п'янаму, вядома, мора па калена), палезе ў ваду. А дзяжурных тады, як я ні стараўся, нідзе не заўважыў, хаця пры мне нехта крычаў: „Ратуйце!" Як ні дзіўна, а з берага на гэты крык, ні адзін чалавек не падняўся, не пацікавіўся,



кожны быў заняты сваёй справай. А таго, хто крычаў, самі маладыя хлопцы выцягнулі на бераг і пакінулі ля сваёй кампаніі, што гуляла ў карты. Аддыхаўшыся, той малады хлопец (яго лёгка было заўважыць па светлых валасах) зноў быў у вадзе.

Дарэчы, свавольства на вадзе вельмі часта прыводзіць да сумных вынікаў. Летась, напрыклад, дзяўчына, якая яшчэ не паспела здаць экзамены за курс сярэдняй школы, пайшла на дно проста на вачах ва ўсіх. Група дзяўчат і некалькі хлопцаў, відаць, пасля застолля на зялёным мурагу, дурэлі на вадзе: крычалі, вішчалі, купаліся і не заўважылі, як не стала адной з сяброўак. Пакуль лементавалі, пакуль клікалі на дапамогу, пакуль з берагу прыбеглі хлопцы, пакуль нырялі і шукалі, прайшло некалькі хвілін. Праўда, тую дзяўчыну знайшлі хутка, але ўжо было позна: выратаваць не ўдалося.

Кажуць, што вада памылак не даруе. Не даруе свавольства, не даруе п'янства. Ад гэтага гінуць маладыя працаздольныя людзі. Такі выпадак адбыўся ўжо сёлета.

У сем'і прыходзіць непапраўнае гора, няшчасце, якога можна было б пазбегнуць, калі б правілы паводзін ля вады і на вадзе ведалі і выконвалі ўсе, хто сюды цягнецца ў летнія дні.

А пакуль што аматары купання прадастаўлены самі сабе, за сваю бяспеку адказваюць самі, самі і церпяць.

„А што ж таварыства выратавання на водах?" – спытаецеся вы. Ёсць у раёне гэтакая служба. Але ж тыя тры яе часовыя дзяжурныя-выратавальнікі, пра якіх гаварыў М. С. Швед, не могуць ахапіць усе месцы купання, дый да кожнага аматара купання не прыставіш выратавальніка. Патрэбна асцярожнасць, здаровы розум усім, хто адпачывае ля вады і на вадзе, нават тым, хто добра плавае. Бо дапамогі чакаць не заўсёды прыходзіцца, а часта яе проста няма. Ці будзе яна ў будучым? На гэтае пытанне пакуль што ніхто не бярэцца адказаць.

С. РЫГОРАЎ.

◆

Фота А. ГАНЧУКА.

● ХОЧАЦЕ – ВЕРЦЕ...

## Смерч на Беларусі ад НЛА?

„Смерч, які праімчаўся па Беларусі, мог быць выкліканы паветранай плынню, створанай лятальным апаратам вялікай масы і вялікай хуткасці", – сцвярджае лідскі футуролаг спадар С.

Характар павалу лесу, які быццам зрэзаны на некалькі метраў над зямлёй, дрэвы ляжаць у адзін бок падкрэслівае мінімум турбулентных складаемых, што не тыпова для смерчаў прыроднага характару. Даволі вузкая асноўная паласа таксама гаворыць за невялікае па аб'ёму, але магутнае ядро смерчу. Спадар С. не выключае, што гэта можа быць той самы НЛА, які ўпаў 24 чэрвеня ў мора каля японскага горада Касумі ў прэфектуры Хіёга.

Калі гэта так, то, відавочна, апарат цярпеў бедства, але яшчэ паддаваўся кіраванню і ўжо недзе на іншым вітку дасягнуў Японіі.

Што зараз рабіць? Шкадаваць ці радавацца? Каб апарат упаў у нас, была б свая славутасць. Але, з другога боку, якой бы сілы мог быць выбух. Прынамсі, японцы пакуль знайшлі толькі масляную пляму. Апарат або разбіўся аб ваду, або ўвайшоў глыбока ў дно. Хоць больш верагодна першае, бо гук выбуху японцы чулі. Верыць ці не верыць – справа асабістая. Магчыма гэта толькі супадзенні.

(„Пагоня").

● ЗДАРЭННІ

## Пазалаціла руку бедная студэнтка

*Колькі гаворана і пісана пра крайнюю неабачлівасць дзяўчат, якія лёгкадумна паддаюцца на ўгаворы цыганак даведацца пра далейшы свой лёс.*

*Закарцела і 19-гадовай жыхарцы Баранавічаў, студэнтцы Беларускага эканамічнага ўніверсітэта, пачуць ад жанчыны цыганскага роду пра сваю будучыню. Спынілася яна ля крамы № 10 па вуліцы Фралянкова, дзе смуглая варажбітка чаплялася да прахожых. Паабяцаўшы дзяўчыне светлую будучыню, цыганка выдурыла ў яе 25 залатых вырабаў і, як трэба было чакаць, знікла.*

*Звярнулі ўвагу на колькасць упрыгажэнняў з каштоўнага металу ў беднай студэнткі? Набывала, трэба меркаваць, усё па крыхах на сціплую сваю стыпендыю. Галава!*

*Л. САШЫН.*

● КНІЖНАЯ ВІТРЫНА

## НАРОДНЫ СОННІК

Прадбачу, што, узяўшы ў рукі „Беларускі народны сonnік", сёй-той скептычна паморшчыцца: „Ну вось, яшчэ адзін соннік выкапалі! Ці мала імі, рознымі, засмечаныя сёння ўсе кніжныя прылаўкі?"

Адразу трэба агаварыцца, што „Беларускі народны соннік" істотна адрозніваецца ад папярэдніх сумніцельных перадрукаў, прынесеных з усяго свету разам з патокам бульварнай літаратуры, якою захлынуўся ўвесь наш кнігагандаль. Адрозніваецца ўжо тым, што сабраны ў гэтай кніжцы матэрыял быў у розныя часы запісаны непасрэдна з вуснаў народа, а гэта значыць як бы з'яўляецца часткаю ягонай творчасці. У аснову яго ляглі старыя этнаграфічныя крыніцы – малавядомыя працы П. Шэйна, Е. Раманава, Я. Ляцкага, М. Нікіфароўскага, А.Сержпутоўскага, М. Федароўскага, А. Багдановіча, Ч. Пяткевіча, К. Машынскага, Ф. Вярэнькі, А. Шлюбскага, А. Васілеўскага. Усё гэта дапоўнена звесткамі, выяўленымі ў наш час у фальклорных экспедыцыях. Усе народныя тлумачэнні сноў перадаюцца на старонках кніжкі так, як былі пачутыя ад простых людзей – з захаваннем асаблівасцей мясцовых гаворак.

На мой погляд, тлумачэнні сноў простымі людзьмі цікавыя перш за ўсё не столькі верагоднай праўдзівасцю сваіх прадказанняў, колькі тым, што тояць у сабе багаты свет народных асацыятыўных уяўленняў.

Увесь сабраны ў народным сонніку матэрыял для зручнасці выкарыстання размеркаваны па тэматычных раздзелах: „Прырода", „Чалавек", „Дзеянні", „Хата", „Стравы", „Жывёлы", „Расліны", „Духоўныя прадметы", „Адзенне, абутак, аздабленні", „Рознае". Думаецца, што чытач з цікавасцю і карысцю для сябе азнаёміцца з невядомымі старонкамі вуснай творчасці нашага народа. І – хто ведае – можа, сабраныя ў кніжцы прадказанні нашых продкаў у нечым збываюцца?

І. ЛАЎРОЎСКІ.

● РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА

## ШТО ПАЧЫМ?

Цэны на рынках нашага рэгіёна ў мінулыя выхадныя (у тысячах рублёў за адзін кілаграм) былі наступныя:

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза |
|---|---|---|---|
| Свініна | 50–65 | 55–67 | 60–70 |
| Тлушч свіны | 40 | 38–42 | 40–45 |
| Селядцы п/с | 40 | 33–38 | 45 |
| Скумбрыя х/в | 70 | 70 | 75 |
| Малако (3 л) | 14 | 16–18 | 15 |
| Тварог | 16 | 20–22 | 20 |
| Масла сялянскае | 70 | 70–80 | 70–75 |
| Цукар | 20 | 19–20 | 20 |
| Рыс | 18.500 | 20 | 23 |
| Макаронныя вырабы | 24 | 26 | 23–25 |
| Бульба | 8 | 5–8 | 5–6 |
| Агуркі | 9 | 8–12 | 10–12 |
| Капуста | 6 | 5–7 | 4–5 |
| Памідоры | 25–30 | 30–35 | 20–30 |
| Цыбуля зялёная (пучок) | 3–5 | 3–5 | 5 |
| Часнык (пучок) | 5 | 5–8 | 5 |
| Чарніцы | 15 | 15–20 | 12 |
| Вішня (вядро) | 150 | 200 | 200 |
| Чорныя парэчкі (вядро) | 120 | 160 | 150 |
| Бананы | 31 | 26–30 | 28–31 |
| Апельсіны | 35 | 26–30 | 36 |
| Грэцкія арэхі | 40 | 35 | 40 |

● АЛЁ, РЭДАКЦЫЯ?

## Для інвалідаў фашысцкай няволі

***Дзе атрымаць дакумент, які пацвердзіць атрыманне інваліднасці ў фашысцкай няволі?***

***Іван Іванавіч (г. Івацэвічы).***

Рэкамендуем Вам звярнуцца ў Міжнародную службу пошуку г. Арользен і ў музей на месцы канцлагера Заксенхаўзен (плошча Генрыха Грубера, 3,165150, г. Араніенбург).



**Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць два разы на тыдзень: у сераду і суботу.**

**Фармат 420х300 мм. Аб'ём – 1 друк. аркуш.**

**Падпісана да друку 24 ліпеня ў 14.00.**

Заснавальнікі У. А. Кудзінаў, А. М. Басалай.

Газета зарэгістравана ў Дзяржаўным камітэце РБ па друку.

Пасведчанне № 694.

Рэдактар Лідзія ЦАЛУЙКА.

НАШ АДРАС: 225250, г. Івацэвічы, вул. Дзяржынскага, 30, рэдакцыя „Газеты для вас". Тэлефон 2-12-29.

Рукапісы і здымкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні і выказванні могуць не супадаць з пунктам гледжання рэдакцыі і не накладваюць на яе ніякіх абавязацельстваў. Пры перадрукоўванні спасылка на нашу газету абавязковая.

*Тыраж 1.000 экз.*

*Заказ № 1691.*